Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №2(97), студзень, 2019г.

# ВЫНІКІ СТУДЗЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

**12 студзеня ў цэнтральнай Сядзібе партыі адбылося пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і ГА БНФ “Адраджэньне”. На першым у новым годзе пасяджэньні Сойм разгледзеў вынікі партыйнай працы за 2018 год, прыняў рэзалюцыі і іншыя рашэньні па правядзеньні фронтаўскіх палітычных кампаніяў, вызначыў фармат правядзеньня акцыі да 101-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці БНР і прызначыў адказных за падачу заяўкі, а таксама разгледзеў сытуацыю, што склалася вакол запазычанасьцяў па аплаце партыйных офісаў у Менску і рэгіёнах.**

У сваім дакладзе старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў даў ацэнку палітычнай сытуацыі і акрэсліў асноўныя дасягненьні Беларускага Народнага Фронту у 2018 годзе.”Гэта быў надзвычай насычаны год, ён быў вельмі насычаны працай і падзеямі для БНФ. Магу з упэўненасьцю сказаць: у 2018 годзе БНФ вярнуў сабе ролю лідэра ў нацыянальна-дэмакратычным руху, як гэта было ў 90-я гады” – сказаў Рыгор Кастусёў.

Масавая акцыя 25 сакавіка “Сьвята Незалежнасьці”, заяўнікам і арганізатарам якой быў БНФ, апынулася найбольш маштабнай акцыяй беларускіх патрыятычных сілаў за апошнія гады, якая сталася магчымая дзякуючы палітычнай працы БНФ і праз умацаваньне сувязяў партыі са струкурамі грамадзянскай супольнасьці: “Самой сабой нічога не робіцца – і гэта зрабілі мы з вамі, сябры” – сказаў старшыня Партыі БНФ.

“Тое, што на дзяржаўным узроўні афіцыйна прыняты падыход, што БНР ёсьць ўласны беларускі дзяржаўніцкі праект – гэта ўжо вялікая справа” – сказаў Рыгор Кастусёў.

Асабліва старшыня партыі адзначыў удзел прадстаўнічай дэлегацыі БНФ ва ўрачыстым адкрыцьці помніка Тадэвушу Касьцюшку, удзел у курапацкай варце і Ночы Растраляных Паэтаў, а таксама шэраг акцыяў Моладзі БНФ, сярод якіх вылучаецца збор подпісаў у падрымку беларускамоўнай адукацыі: “Моладзь БНФ цяпер ёсьць самым актыўным аб’яднаньнем дэмакратычнай і патрыятычнай моладзі. Падкрэслю, што гэьтая праца робіцца хлопцамі і дзяўчатамі на энтузіязме, за што ім вялікі дзякуй. Мы бачылі ў гэтым годзе скандальныя відэаролікі пра тое як моладзь прымусова заганаюць у БРСМ, на гэты год БРСМу ізноўку павялічылі фінансаваньне. Прыкра, што дзяржава падтрымлівае арганізацыю, якая дзейнічае праз прымус, а не сапраўдных патрыётаў Радзімы” – сказаў Рыгор Кастусёў.

У якасьці прыкладу пазытыўнай працы на месцах Рыгор Кастусёў прывёў выпадак з аркай у Магілёве: маштабны і дарагі праект павінны быў быць аформлены на расейскай мове. Аднак, праз звароты БНФ, праз перамовы з мясцовымі ўладамі, праз прыцягненьне увагі парлямэнту атрымалася дамагчыся таго, што манумэнтальны аб’ект у выніку быў аформлены на беларускай мове.

У 2018 годзе адбылася палітычная кампанія ў межах выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў дэпутатаў. Прадстаўнікі БНФ, не маючы ілюзіяў адносна маніпулятыўнага характару кампаніі, узялі ўдзел у актыўным назіраньні за галасаваньнем, што дазволіла прадэманстраваць усяму сьвету і беларускаму грамадзтву фэйкавы характар гэтых выбараў.

Ацэньваючы бягучую палітычную сытуацыю старшыня Партыі БНФ адзначыў, што пагрозы беларускай незалежнасьці гучаць цяпер з Крамля ўжо ў адкрытую, пры гэтым Масква спасылаецца на дамовы пра саюзную дзяржаву, пра АДКБ, якія былі заключаныя Лукашэнкам. **У гэтых умовах Партыя БНФ павінная цьвёрда стаяць на пазыцыях абароны незалежнасьці і абароны інтарэсаў беларускага народа ад любых пагрозаў і замахаў – як зьнешніх, так і ўнутраных.**

Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў адзначыў, што цяпер Беларусі трэба глядзець і вучыцца на досьведзе Украіны: “Калі я пасьля 2010 года, у 2012 годзе таксама, размаўляў з Раманам Бяссмертным ды іншымі ўкраінскімі палітыкамі і казаў ім пра тое што Расея рыхтуе захоп Крыму гэатксама як яна захапіла частку грузінскай тэрыторыі – яны ставіліся да маіх папярэджанняў несур’ёзна і з вялікім сумневам. Нам трэба засвоіць гэту ўрок і да тых інфармацыйных атакаў, якія ідуць цяпер праз расейскія СМІ (як праз тэлеканалы, так і праз інтэрнэт) – ставіцца наздзвычай сур’ёзна. Гэтыя пагрозы неабходна ўлічваць і ўладам, і ўсяму грамадзтву” – сказаў Рыгор Кастусёў.

На прапанову намесьніка старшыні БНФ Зьміцера Салошкіна Сойм прыняў заяву «Беларуская мова – найважнейшы фактар нацыянальнай бясьпекі для незалежнай беларускай дзяржавы».

Старшыня Партыі БНФ адзначыў, што на 2019 год прыпадае шэраг юбілейных і памятных датаў, якія заслугоўваюць увагі БНФ і павінныя быць скарысаныя для грамадзкіх дзеяньняў: гэта не толькі чарговая гадавіна БНР, угодкі чарнобыльскай аварыі і гадавіна Слуцкага збройнага чыну, але і 30-годзьдзе першага зьезду БНФ, 70 годзьдзе НАТА, а асабліва – 25-годзьдзе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. На прапанову старшыні Сойм прыняў рэзалюцыю «25 гадоў Канстытуцыі мусіць стаць нагодай для дэманстрацыі непарушнасьці дзяржаўнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь», у якой заклікаў дзяржаву да адзначэньня юбілейнай даты, якая мусіць стаць нагодай для пацьвярджэньня незалежнасьці і сувэрэнітэту сучаснай беларускай дзяржавы. Управе даручана ажыцьцявіць захады па давядзеньні гэтай рэзалюцыі да органаў улады, а таксама распрацаваць праграму мерапрыемстваў з нагоды іншых памятных датаў 2019 года.

Сойму было прадстаўленае паведамленьне пра арганізацыйную падрыхтоўку партыі да парлямэнцкіх выбараў і кампаніі назіраньня.

Сойм заслухаў інфармацыю сябры Сойму Алеся Жучкова пра сэрыю сэмінараў па гэндэрным пытаньні, што была наладжаная ў розных гарадах Беларусі сіламі структур БНФ і пры ўдзеле іншых дэмакратычных арганізацыяў.

Намесьнік старшыні БНФ Вадзім Саранчукоў нагадаў, што сумнавядомы дэкрэт №3, што ўводзіў збор, празваны ў народзе “падаткам з дармаедаў”,

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА – НАЙВАЖНЕЙШЫ ФАКТАР НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСЬПЕКІ ДЛЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

**Заява Сойма Партыі БНФ**
**12 студзеня 2019 году**

У апошнія месяцы з падачы расейскіх дзяржслужбоўцаў у СМІ ізноўку ўкінутыя інсынуацыі пра ўвасабленьне ў жыцьцё авантуры пад назвай "саюзная дзяржава". Дамовы пра гэтае ўвтарэньне былі заключаныя адзінаасобным кіраўнікам Беларусі дваццаць гадоў таму, чым былі створаныя даўгатэрміновыя пагрозы для незалежнасьці нашай краіны. Пакуль існуе "саюзная дзяржава" – існуе пагроза аншлюсу, ліквідацыі беларускай дзяржавы і яе інкарпарацыі ў склад Расеі.

Разам з тым БНФ цьвёрда перакананы ў тым, што беларуская незалежнасьць грунтуецца не толькі на фармальна-прававых інстытутах, а тым больш не на адзінаасобнай аўтарытарнай уладзе. Цяперашняя Рэспубліка Беларусь каштоўная не сама па сабе, і тым больш не як "падмандатная тэрыторыя", што быццам бы захавалася толькі праз 25-гадовае кіраваньне адной асобы.

Рэспубліка Беларусь ёсьць формай існаваньня беларускай нацыі – і толькі як беларуская нацыянальная дзяржава яна мае сэнс для існаваньня і можа прэтэндаваць на устойлівасьць. Дзяржаўныя інстытуты будуць сапраўды моцныя толькі тады, калі будуць абапірацца на беларускае грамадзтва, беларускі бізнэс, беларускае сялянства, беларускае войска, беларускія СМІ, беларускую царкву, на пачуцьцё нашай агульнай ідэнтычнасьці як беларусаў і пачуцьцё нашай супольнай адказнасьці за лёс нашай краіны і будучых пакаленьняў беларусаў.

У гэтай сыстэме дзяржаваўтваральных падмуркаў найважнейшым элемэнтам зьяўляецца беларуская мова. Выбар на карысьць беларускай мовы – гэта выбар на карысьць нацыянальнай дзяржавы і, у рэшце рэшт, адзіна магчымы выбар для сапраўднага беларускага патрыёта.

Пакуль значная частка беларусаў не карыстаецца беларускай мовай, глядзіць расейскія тэлеканалы, жыве ў расейскай моўнай прасторы – заўжды будзе небясьпека таго, што сюды прыйдуць расейскія танкі "бараніць рускамоўных". Нездарма ж расейскія шавіністы кажуць што "русский мир" – гэта ўся прастора панаваньня расейскай мовы.

Прымаючы пад увагу актывізацыю антыбеларускіх выступаў і інфармацыйных атак супраць Беларусі і беларусаў, **мы абвяшчаем 2019 год годам беларускай мовы** і заклікаем да наступных крокаў па ўмацаваньні беларускай мовы:

- Заклікаем усіх жыхароў Беларусі вывучаць і ўдасканальваць ступень валоданьня беларускай мовай, заклікаем карыстацца беларускай мовай ва ўсіх жыцьцёвых выпадках, ініцыяваць стварэньне беларускамоўных групаў і плыняў у навучальных установах розных узроўняў;
- Заклікаем усіх беларусаў падчас перапісу насельніцтва, які прызначаны на кастрычнік 2019 года, пазначаць беларускую мову ў якасьці роднай мовы і мовы штодзённага ўжытку дома;
- Заклікаем беларускі бізнэс, усіх вытворцаў тавараў і паслугаў, карыстацца беларускай мовай у рэклямных кампаніях, у аздабленьні тавараў, у камунікацыі з пакупнікамі і карыстальнікамі;
- Патрабуем ад уладаў Беларусі абмежаваць трансляцыю расейскіх тэлеканалаў, якія распальваюць міжнацыянальную варажнечу і па-сутнасьці ёсьць сродкамі вядзеньня інфармацыйнай вайны супраць нашай краіны, замяніўшы іх праграмамі ўласнай вытворчасьці альбо збалансаваным наборам замежных тэлепраграмаў з розных іншых краінаў;
- Патрабуем ад уладаў Беларусі прыняцьця актаў заканадаўства на беларускай мове;
- Заклікаем улады Беларусі пашыраць выкарыстаньне беларускай мовы ў сыстэме адукацыі, у тым ліку стварыўшы вышэйшыя навучальныя установы з выкладаньнем на беларускай мове і прыняўшы на заканадаўчым узроўні дзяржаўную праграму развіцьця і падтрымкі беларускамоўнага навучаньня з павелічэньнем дзяржаўнага фінансаваньня праграмаў па развіцьці беларускай культуры, адукацыі і мовы з выдзяленьнем сродкаў на конкурснай аснове недзяржаўным ініцыятывам і арганізацыям грамадзянскай супольнасьці;
- Нагадваем што ад 1 студзеня 2019 года ўсе інтэрнэт-сайты дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў павінныя мець беларускамоўныя вэрсіі і абвяшчаем пра намер пільна адсочваць выкананьне гэтай нормы заканадаўства праз маніторыг дзяржаўных сайтаў з рэагаваньнем на парушэньні шляхам адпаведных зваротаў да ўладальнікаў сайтаў і, пры сыстэмных парушэньнях, шляхам скаргаў у міністэрства інфармацыі.

# ВЫНІКІ СТУДЗЕНЬСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

быў пераназваны ў дэкрэт №1 "Аб садзейнічаньні занятасьці насельніцтва" і усупіў у сілу, улады цяпер фармуюць базы дадзеных людзей, якія будуць дыскрымінаваныя ў праве карыстацца сацыяльнымі паслугамі і паслугамі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Раней, у красавіку 2018 года, Сойм Партыі БНФ ужо даваў ацэнку дэкрэту №1, заявіўшы, што **за валюнтарысцкі зьмест Дэкрэту №1 пэрсанальную адказнасьць нясе асабіста Аляксандр Лукашэнка**, на ім жа палягае адказнасьць за наступствы гэтага акту ў той жа ступені, як і за наступствы яго ранейшага Дэкрэту №3. Але, як заявіў Вадзім Саранчукоў, на дадзены момант ёсьць неабходнасьць у актыўных грамадзкіх дзеяньнях па процідзеяньню гэтаму дыскрымінацыйнаму дэкрэту.

Сойм заслухаў інфармацыю аб становічшы з аплатай партыйных сядзібаў ў Менску, Гародні і Магілёве. Як паведаміў старшыня партыі, на чатыры з шасці структураў БНФ, якія месцяцца ў цэнтральнай сядзібе, пададзеныя іскі аб высяленьні за запазычанасьці па аплаце. Кампанія краўдфандынгу, абвешчаная Управай, дала пэўны плён: на дадзены момант атрымалася сабраць агулам 23 150 рублёў для аплаты запазычанасьцяў па офісах, пры тым што на лістапад БНФ быў вінны 29 тысяч. Але дадаюцца яшчэ і арэндныя плацяжы і камунальныя плацяжы бягучыя за лістапад, сьнежань і студзень. Агулам на цяперашні час цэнтральная сядзіба БНФ вінная яшчэ 12 тысяч рублёў, і пагроза высяленьня арганізацыі з цяперашняга офіса ёсьць рэальнай.

Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў заклкаў сябраў сойму актыўна працаваць у накірунку збору ахвяраваньняў, якія ёсьць жыцьцёва неабходныя каб захаваць у Менску адзінае месца, дзе лунае нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.

Рыгор Кастусёў таксама паведаміў, што партыя зьвярнулася да ўраду з запытам аб прадастаўленьні паніжальнага каэфіцыента 0,1 на аплату памяшканьня Сядзібы, якая знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасьці (такі каэфіцыент цяпер маюць іншыя партыі і некаторыя грамадзкія аб'яднаньні).

У "Розным" Сойм заслухаў інфармацыю пра канфэрэнцыю "Беларуская дзяржаўнасьць. Гісторыя і сучаснасьць", што была арганізаваная 5 студзеня ў Віцебску сябрам Сойму Партыі БНФ Хрыстафорам Жаляпавым. Сябра Сойму Вадзім Болбас распавёў, што адначасова з Соймам у Менску адбываецца канфэрэнцыя экалагічных ініцыятываў з розных гарадоў, што абараняюць права грамадзян на спрыяльнае навакольнае асяродзьдзе – у ёй бяруць удзел актывісты і актывісткі БНФ, якія прадстаўляюць сьветлагорскую ініцыятыву супраць пабудовы кітайцамі ў горадзе заводу па вытворчасьці беленай цэлюлозы.

# ГЛЫБОКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ -- АНШЛЮС ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў даў інтэрвію Беларускаму Радыё Рацыя.**

Радыё Рацыя: Цяпер мы знаходзімся амаль у перадвыбарчым перыядзе. Як гэта выглядае ў вашай партыі?

Рыгор Кастусёў: Партыя БНФ прыняла рашэнне пра вылучэнне сваіх прэтэндэнтаў на пасаду кандыдата ў прэзідэнты яшчэ на апошнім з'ездзе, які праходзіў 30 верасня 2017 года. І тады з'езд вылучыў двух прэтэндэнтаў: Аляксея Янукевіча і Юрася Зянковіча. І гэта застаецца актуальным. Пасля унутраных перамоў мы сыходзімся на тым, што будзе кандыдат №1 – гэта Аляксей Янукевіч, але ёсьць і запасны кандыдат, вылучаны з'езда – гэта Юрась Зянковіч.

РР: Партыя БНФ вядзе гэтую працу самастойна?

РК: Так. Мы прынялі рашэнне, што ідзем на гэтыя выбары як самастойная палітычная сіла. Рашэнне з'езду ніхто не мае права адмяніць.

РР: Прынята рашэнне, каб 2018 стаў Годам беларускай мовы. Што гэта азначае?

РК: Кампанія ў абарону беларускай мовы прынята адным з рашэнняў Сойму Партыі БНФ, ГА БНФ „Адраджэньне". Калі мы зацвярджалі план дзейнасці на 2018-2020 гады. Гэта кампанія запланаваная. Тое, што адбываецца зараз у Беларусі, я думаю, што вы разумеце, асабліва ў плане пагрозы незалежнасці нашай краіны, менавіта гэта кампанія ў абарону беларускай мовы набывае найбольшую актуальнасць. Можна сказаць, што зараз беларуская мова – гэта зброя ў абароне незалежнасці нашай краіны. Соймам было прынята рашэнне прыняць менавіта такую заяву, як зварот да грамадзян Беларусі, як зварот да ўладаў Беларусі. Нас трошкі здзівіла тая рэакцыя, якая адбылася ў Крамлі. Якая адбылася сярод кіраўніцтва і СМІ Расейскай Федэрацыі, бо гэты зварот быў не да іх, гэты зварот да грамадзян Беларусі, да кіраўніцтва Беларусі.

РР: Якая гэта была рэакцыя?

РК: Рэакцыя вельмі негатыўная ў расейскіх СМІ. дайшло да таго, што палітыкі выказалі негатыўнае стаўленне да нашай заявы ў абарону беларускай мовы. Расейскія сродкі масавай інфармацыі, НТВ і нават камітэт Дзярждумы ў выходны дзень, у нядзелю выказаў сваё меркаванне. Для іх абарона беларускай мовы – гэта чарговыя русафобскія закіды. З-за гэтага нібыта церпяць расейскамоўныя грамадзяне Беларусі, якіх трэба абараняць. Вось да гэтага дагаварыліся расейскія, крамлёўскія каментатары і палітыкі.

РР: То бок беларуская мова спалохала больш, чым розныя палітычныя гучныя заявы, у тым ліку прадстаўнікоў улады?

РК: Так, спалохала вельмі моцна. Мы чаму яшчэ прынялі такую заяву, бо як зазначыў Сойм партыі,беларускія ўлады зараз у разгубленасці пасля ўсіх гэтых заяваў пра неабходнасць далучэння Беларусі да Расейскай Федэрацыі – пра больш глыбокую інтэграцыю. У чым заключаецца гэтая глыбокая інтэграцыя мы ўсе добра разумеем. Яна заключаецца ў аншлюсе Беларусі. У свой час такая інтэграцыя адбылася, калі Нямеччына далучала Аўстрыю, мы ўсе ведаем, што адбылося. У такім жа плане разглядаецца глыбокая інтэграцыя з Беларуссю. Мы бачым, што беларускае кіраўніцтва ў разгубленасці, таму мы паспрабавалі даць накірунак дзейнасці ўладзе, можа падштурхнуць іх. У той жа час гэта заклік да беларускага народа бараніць незалежнасць, гэта заклік да іншых партыйных палітычных сіл, да грамадскіх арганізацый. Калі мы ўсе разам падтрымаем гэтую ініцыятыву, то я думаю, што будзе станоўчы вынік. Там яшчэ была заява пра абмежаванне расейскіх СМІ на тэрыторыі Беларусі, якія будуюць нянавісць, варожасць да іншых нацый, распальваюць міжнацыянальную варажнечу. Гэта нас палохае. Чаму ў Беларусі нельга арганізаваць трансляцыю польскага тэлебачання, украінскага? Ёсць толькі расейскія, якія дамінуюць і забіваюць беларускія каналы.

# БНФ ЗАКЛІКАЕ ДЗЯРЖАВУ ДА ШЫРОКАГА АДЗНАЧЭНЬНЯ 25-ГОДЗЬДЗЯ КАНСТЫТУЦЫІ

**25 гадоў Канстытуцыі мусіць стаць нагодай для дэманстрацыі непарушнасьці дзяржаўнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь**

**Рэзалюцыя** Сойма Партыі БНФ 12 студзеня 2019 году

На 2019 год прыпадае юбілейная дата, надзвычай значная для палітычнай гісторыі сучаснай Беларусі: 15 сакавіка ў нашай краіне будзе адзначацца дзяржаўнае сьвята – Дзень Канстытуцыі, якая была прынятая 25 гадоў таму ў сакавіку 1994 году. Юбілей Канстытуцыі мусіць быць годна адзначаны на дзяржаўным узроўні. Чвэрць стагодзьдзя Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь – добрая нагода паказаць усяму сьвету непарушнасьць сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь як формы рэалізацыі неад'емнага права беларускага народа на самавызначэньне.

Сьцьвярджэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь як ідэалагічнай асновы беларускага грамадзтва павіннае пакласьці канец замахам на беларускую дзяржаўнасьць, якія робяцца часьцяком пад фальшывымі лёзунгамі пра інтэграцыю на аснове палітычных спекуляцыяў з наўпроставымі антыбеларускімі мэтамі.

Адзначэньне гадавіны абвяшчэньня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і актуалізацыя закладзеных у ёй прынцыпаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі асабліва важныя цяпер, калі супраць нашай краіны ажыцьцяўляюцца інфармацыйныя атакі, скіраваныя на пазбаўленьне беларускага народа права на самавызначэньне і пабудову ўласнай нацыянальнай дзяржавы.

Досьвед адзначэньня летась стагодзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі сьведчыць, што падобныя важныя гістарычныя даты могуць спрыяць умацаваньню беларускай дзяржаўнасьці, а іх ігнараваньне дзяржаўнымі органамі можа несьці пагрозу для яе.

З нагоды 25-годзьдзя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь БНФ зьвяртаецца да рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады з прапановай шырока адзначыць гэтую важную дату, у тым ліку разгледзіўшы, сярод іншага, наступныя захады:

– Наданьне вуліцам, праспэктам і плошчам у гарадах Беларусі назваў у гонар Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і яе 25-годзьдзя, у тым ліку пераіменаваўшы адну з важных вуліц у Менску ў гонар Канстытуцыі (гэта можа быць цяперашняя вуліца Ульянаўская, якая сымбалічна ідзе паралельна цяперашняму праспэкту Незалежнасьці);

– Прысвячэньне штомесячнага "Адзінага дня інфармаваньня насельніцва" у сакавіку 2018 года тэме "Станаўленьне сучаснай беларускай дзяржаўнасьці: Прыняцьцё Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь" з даручэньнем падрыхтаваць адпаведныя матэрыялы для інфармацыйна-прапагандысцкіх груп Інфармацыйна-аналітычнаму цэнтру пры адміністрацыі прэзыдэнта супольна з Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук;

– Правядзеньне ў дыпляматычных прадстаўніцтвах Рэспублкі Беларусь у замежжы ўрачыстых прыёмаў ды іншых імпрэзаў, у тым ліку ў супрацы з арганізацыямі беларускай дыяспары;

– Візуальнае аздабленьне вуліц сталіцы ды іншых гарадоў тэматычнымі расцяжкамі і транспарантамі, а таксама даручэньне УП «Агенцтва Мінск-Навіны», ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне», галоўнаму ўпраўленню ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкамады іншым адпаведным установам арганізаваць у СМІ публікацыі да 25-годзьдзя беларускай Канстытуцыі.

Сойм Партыі БНФ даручае Управе Сойму скіраваць азначаныя прапановы ў адпаведныя дзяржаўныя органы і мясцовым уладам згодна іх кампэтэнцыі, а таксама ў грамадзкія і палітычныя арганізацыі (у тым лку тыя, што карыстаюцца падтрымкай дзяржавы) з заклікам падтрымаць ініцыятыву па ўшанаваньні 25-годзьдзя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

# НА ПАРЛАМЕНТСКИХ ВЫБОРАХ ОППОЗИЦИЯ ВОЗЬМЕТ НА ТОТАЛЬНЫЙ КОНТРОЛЬ 18 ОКРУГОВ

**Восемь оппозиционных организаций проведут кампанию наблюдения «Право выбора» на предстоящих парламентских выборах.**

Как заявили представители этих организаций подписано соглашение о совместном проведении мобилизационной кампании для активного наблюдения на предстоящих выборах. Для наблюдения планируется выдвинуть около 1,5 тысячи человек.

Участники кампании намерены выдвинуть кандидатов в депутаты Палаты представителей своих партий и организаций. На 18-ти округах, где будут баллотироваться оппозиционные кандидаты, и будет организовано совместное наблюдение.

«Наши представители уже сейчас работают по содействию решения местных проблем, а также мобилизации жителей районов для участия в наблюдении за выбоорами, — сказал председатель БСДП **Игорь Борисов**. — Важная задача кампании «Право выбора» — организовать наблюдение не только силами партийных активистов, но и привлечь к совместной работе новых, далеких от политики людей».

Политики предполагают, что парламентские выборы могут быть назначены в конце текущего года, поэтому старт кампании наблюдения с начала февраля они не считают преждевременным.

«Мы ответственно заявляем, что демократические силы готовы объединиться для совместной борьбы за восстановление демократических принципов, за право белорусов избирать, контролировать и изменять свою власть», — заявил председатель Партии БНФ **Григорий Костусев**.

«Люди ждут от нас лидерства и помощи в том, чтобы их жизнь становилась лучше. И мы делаем для этого конкретные дела по всей стране. Это единственный путь, чтобы переубедить людей, что свободные выборы нужны не партиям, а простым гражданам», — добавила сопредседатель оргкомитета БХД О**льга Ковалькова**.

В ближайшие два года в Беларуси пройдут президентские и парламентские выборы. Согласно законодательству, выборы в Палату представителей должны пройти не позднее 10 сентября 2020 года, президента — не позднее 30 августа 2020-го. В связи с этим не исключено, что одна из избирательных кампаний состоится в 2019 году.

Сергей КОРОЛЕВИЧ